Цана асобнага нумару 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 59 (101). Вільня, Субота 6 Жніўня 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Аб нашай Ідэі і яе ворагах.

Ідэя Беларускага Сялянскага Саюзу—гэта тое, што напісана на першым месцы яго праграмы, г. зн.—незалежнасьць. Але гэтая ідэя не дае спакою таму, хто ня хоча відзець Беларусь незалежнаю, хто кіруецца рознымі арыентацыямі будучы ахопленым нявольніцкай псыхалёгіяй, служыць чужым багам. Здаровая і правідловая ідэя, якая адыграе сваю ролю ў арганізацыі Беларускага Народу і ў змаганьні за яго правы, вельмі не падабаецца панам з „Нашае Праўды“ і „Беларускага Слова“. На розныя лады і рознымі спосабамі яны стараюцца зьніштожыць самую ідэю і здэнацыяналізаваць беларускія масы, а ў мэтах гэтага пашыраюць розныя весткі аб нібыта слабых уплывах Беларускага Сялянскага Саюзу на сялянства, як галаўнейшую частку Беларускага Народу. Аднак-жа самыя нават ворагі Бел. Сялянскага Саюзу б'ючы арганізацыю прызнаюць, што праграма і ідэя Беларускага Сялянскага Саюзу зьяўляюцца добрымі. Чуць гэта ад ворагаў і прынімаць удары іх злосных нападкаў нікольні ня трывожыць кіраўнікоў Беларускага Сялянскага Саюзу. Усё гэта ясна сьведчыць, што ворагі маюць фальшывыя мэты і што з гэтакімі далёка ня пойдуць.

Праўда, можа нейкі час і ў нейкай меры яны будуць разьбіваць арганізаванасьць Беларускага Народу, можа будуць разьбіваць адзіны супольны нацыянальны беларускі фронт, аднак-жа фальш заўсёды выходзіць на вонкі і тагды праўда сьмяротна забівае таго, хто карыстаўся фальшам.

Нядаўна адбылася канфэрэнцыя Беларускага Сялянскага Саюзу, з 35 прадстаўнікоў ніхто не сказаў, што Ідэя Бел. Сял. Саюзу—фальшывая, ніхто не сказаў, што яе трэба зьмяніць на якую-колечы арыентацыю, каб выслужыцца ў нашых валадароў, наадварот, кожны цьвярдзіў, што Ідэя зьяўляецца самаю правідловаю і вернаю і толькі, калі зьдзейсьнім яе—дык будзем шчасьлівымі.

Канфэрэнцыя сьцьвярдзіла, што калі-б нават Ідэя Бел. Сял. Саюзу ня мела цяпер вялікае масы прыхільнікаў, дык усёроўна—будучына забясьпечана ёй, бо мусіць прысьці час, настане пара, калі кожны Беларус аканчальна страціць веру ў ласку польскіх паноў і маскоўскіх збавіцеляў і ўсьвеламіцца, што ніхто ня дасьць нам збаўленьня, што даб'емся мы вызваленьня сваею ўласнаю рукой.

На перакор усім заявам і яўна ілжывым інсынуацыям, ворагам арганізаванасьці Беларускага Народу, канфэрэнцыя сьцьвярдзіла, што Ідэя Беларускага Сялянскага Саюзу зьяўляецца вельмі папулярнаю сярод народных масаў, толькі няма ў масах актыўнасьці, каб рашуча ўзяцца за зьдзейсьненьне. І вось, канфэрэнцыя, прызнаючы правільнаю тактыку Бел. Сялянскага Саюзу ў мінулым, прызнала, што і далей тактыка павінна аставацца тою самаю, гэта знача і далей Беларускі Сялянскі Саюз павінен працаваць над прабуджэньнем у Беларускім Народзе актыўнасьці да змаганьня і барацьбы за сваё права і волю і за належнае яму месца пад сонцам на роднай зямлі.

Праца гэтая — ня лёгкая: стаяць на перашкодзе гэтаму і чужацкае над намі валадарства і старыя пералсыткі, пакінуўшыя нам нявольніцкае пакланеньне перад чужынцамі, і найміты чужацкага і варожага нам абодвабаковага суседзтва. Прадажнікі выпрацоўваюць розныя арыентацыі, блудныя шляхі, твораць шкодныя кірункі і гэтым разьдзіраюць адзінства народу. Але-ж здаровая і правідловая Ідэя моцна стаіць сярод гэтых зласьлівых хваляў і крок за крокам асьвячае сваім сьветам далей і шырэй прасторы, пранікаючы ў гушчы народу, а цераз гэта ўсё болей і болей прыстае да гэтае высьпы людзей, якія змучыўшыся блуканьнем па мукам прыходзяць да перакананьня, што толькі тут, у радох роднага Беларускага Сялянскага Саюзу,—ратунак.

Вось чаму запраўды выглядаюць мізэрна заявы розных „адшчапенцаў“, калі яны, як „Наша Праўда“ і яе папярэднікі, гаворачы аб ніштожнасьці арганізацыі, аб малых уплывах Бел. Сялянскага Саюзу сьцьвярджаюць, што праграма добрая.

Вось чаму камічнымі зьяўляюцца заявы „Бел. Слова“ аб адсутнасьці прыхільнасьці да Беларускага Сялянскага Саюзу, адначасна сьцьвярджаючы, што Ідэя Беларускага Сялянскага Саюзу вельмі паважная.

Калі добрая праграма і паважная Ідэя, парадзіўшая яе, дык добраю будзе і самая арганізацыя, якімі-бы тэмпамі яна ня вырасла.

Чалавек перад многімі зьвярамі зьяўляецца моцным ня фізычнаю сілаю, а розумам; дык і мы зьяўляемся моцнымі не грашыма, якіх ня маем і дзеля гэтага ня маем закупленых агентаў, а сваею ідэяю, якая ясная як сонца і якая, бязумоўна, ужо перамагла, каб аканчальна запанаваць сярод Беларускага Народу.

Ст. Рубель.

## Канфэрэнцыя трох.

У працягу нешта пяці тыдняў адбывалася ў Жэнэве ў Швайцарыі канфэрэнцыя прадстаўнікоў трох вялікіх дзяржаваў: Англіі, Злучаных Штатаў Паўночнай Амэрыкі і Японіі. Гэтыя тры дзяржавы зьяўляюцца г. зв. „марскімі“ дзеля таго, што іх інтарэсы лучацца з морам і сходзяцца ці праўдзівей канчальную сутычнасьць маюць на Далёкім Усходзе, на Спакойным акіяне.

Канфэрэнцыя мела на мэце ўрэгуляваць справу ўваружэньня на моры, кажу ўрэгуляваць, бо аб разаружэньні ня было і няма гутаркі і быць ня можа.

А калі так, дык і закончылася канфэрэнцыя бяз нічога. Справу марскіх уваружэньняў урэгуляваць не ўдалося, бо ніхто нікому ня ўступіў, кожная з прысутных трох дзяржаваў хацела дабіцца абмежаваньня для іншых, а свайму ўваружэньню захаваць як можна больш вольнасьці. Ясна, што пры гэтакай пастаноўцы пытаньня канфэрэнцыя не дала пажаданых рэзультатаў.

У 1921 годзе гэтакая самая канфэрэнцыя, толькі шырэйшага значэньня, бо бралі ўдзел прадстаўнікі ад многіх дзяржаў, адбылася ў Вашынгтоне і яе чаму-та называлі „канфэрэнцыя разаружэньня“.

Папярэдняя канфэрэнцыя „дала нібыта пэўныя вынікі“, бо дагаварыліся там, што між Англіяй, Зл. Шт. Паўн. Амэрыкі і Японіяй павінны быць адносіны марскіх уваружэньняў, як цыфры 5, 5, 3, а г. зн., што калі напрыклад Англія мае 5 караблёў якога-колечы тыпу, дык Зл. Шт. Паўн. Амэрыкі могуць мець таксама 5 гэтакіх караблёў, а Японія толькі 3.

Аднак-жа пастановы гэтае ніхто не датрымаў і вось у працягу 6 гадоў не азіраючыся на другіх кожны будаваў караблі колькі хацеў ды колькі мог. Вынікам гэтакага ўваружнага пасьпеху зьявілася сучасная жэнэўская канфэрэнцыя. На яе абрадах мела быць Францыя ды Італія, але-ж гэтыя адказаліся... І праўда, Італія ня мае ці мае зусім малыя інтарэсы на Спакойным акіяне, а Францыя—дык проста не ўзяла ўдзелу, хіба толькі дзеля таго, што яе інтарэсы на Спакойным акіяне выклікаюць можа найменей спрэчак. У адным з папярэдніх артыкулаў „Канкурэнцыя дужых“, „Сял. Ніва“ абрысавала вузел інтарэсаў паміж канфэраваўшаю тройкаю, а дзеля гэтага зьвяртаемся да аснаўнога пытаньня, паднятага гэтым артыкулам.

І так знача, у Вашынгтоне ў 1921 годзе і цяпер у Жэнэве ніхто ня меў на мэце разаружэньня, хоць і гаварылася аб гэтым, ніхто ня імкнуўся і да спыненьня ўваружанасьці на моры гутарка ішла, як тагды, так і цяпер, толькі аб тым, каб ня было безпляноўнага ўваружэньня, каб дзяржавы імкнуліся стварыць нейкую раўнавагу... Але якая можа быць раўнавага, калі Англія будзе мець большую аружную сілу на моры, чым Японія?

Заўсёды Японія, гаворым для прыкладу, пажадае мець запраўдную раўнавагу, а нават і перавагу, каб забясьпечыць сябе ад пасяганьня іншых, а нават, пры падходным выпадку, захапіць што-колечы ад іншых.

Дзеля гэтага самага, ня гледзячы на тое, што фармальная гутарка аб разаружэньні цягнецца вось некалькі гадоў, фактычна ніякіх рэзультатаў няма, а цераз тое самае палажэньне астаецца па даўнейшаму вельмі пагражаючым.

Далёкі Ўсход, там, дзе разьліліся глыбокія воды Спакойнага акіяну, зьяўляецца месцам, дзе магчыма паўстануць паважныя канфлікты, якія ў угоду крываваму Малоху праліюць многа чалавечае крыві... Канфлікт гэты дасьпявае вось ужо ў працягу трэцяга дзесятка гадоў.

Яснавід.

# Аб гаспадарчым палажэньні.

На канфэрэнцыі прадстаўнікоў прэсы з п. міністрам гандлю і прамысловасьці Квяткоўскім, апошні заявіў, што ў гэтым годзе вываз збожжа заграніцу будзе забаронены. Некаторыя польскія апазіцыйныя газэты, а найвастрэй сацыялістычны „Роботнік“, крытыкуючы дзейнасьць ураду ў мінулых гадах, называюць заяву, вышэй паданую, міністра прызнаньнем да памылак.

„Роботнік“ піша: „Калі-б урад паслухаў нас у леташнім годзе, дык ня трэ' было-б учарашніх выясьненьняў аб тым, што гандлёвы балянс, які дае дэфіцыт, удасца паправіць. Гаспадарчы інтэрас краю прысьвечаны быў урадам на здабыцьцё сымпатыі для ўраду абшарнікаў“.

„Пасьля афіцыяльнага прызнаньня п. Квяткоўскага, што „вываз земляробскіх прадуктаў ня быў прыстасаваны“ да ўраджаю, п. Незабытоўскі, які зьяўляецца вінаватым у гэтай праступнай „памылцы“ павінен папрасіць адстаўкі“. У сувязі з гэтым паваротам кіраўнічых сфэраў да розуму хочацца зрабіць маленечкі агляд іх папярэдняй дзейнасьці і выявіць „праступныя“ памылкі.

Польшча, як ведама, па сваей гаспадарчай структуры зьяўляецца краем земляробскім. Прамысловасьць яе значнае ролі ня іграе, яна нятолькі выціснута з-за граніцы, але-ж нават частку і то вялізарную частку свайго ўнутранага рынку аддала чужацкай прамысловасьці. Заграніца выробляе танейшы і лепшы тавар, так, што прамысловасьць ня можа канкураваць з заграніцаю.

І вось, як для краю, які можа находзіць збыт заграніцаю толькі на земляробскія прадукты, польскі ўрад марш. Пілсудскага прызнаў, што будзе карысна для польскае дзяржавы, калі ў Польшчы будуць дарагімі земляробскія прадукты, а дзеля гэтага „спрытны“ эканаміст і „вялікі“ палітык, буйны абшарнік міністар земляробства п. Незабытоўскі, нашоў раду, каб павысіць цану на прадукты. Па яго дамаганьню ў леташнім годзе ўрад дазволіў вывозіць збожжа заграніцу бяз ніякага абмежаваньня. Мала таго, што дазволіў вываз, але-ж даў грошы гандлёвым фірмам на закупку збожжа для вывазу і ўсьцяж трывожыўся, што вельмі слаба, што вельмі памалу ідзе экспорт. Але-ж і памалу зрабілася многа, бо пад вясну сталася тое, што стаў адчувацца недастатак земляробскіх прадуктаў, а перадусім хлеба ў самой Польшчы. Той, хто меў, дык ужо даўным-даўно прадаў і было ўсё вывезена, а каму трэба купіць, дык ужо ня было чаго. Адразу сталі павышацца і вельмі значна цэны на хлеб, неабходным зьявілася купляць для Польшчы хлеб заграніцаю. Бязумоўна, так яно і тварылася, Але-ж гэта вельмі некарысна для дзяржавы. А чаму? Таму, што калі купляць што заграніцаю, дык трэба плаціць або золатам, або загранічнымі „цьвёрдымі“ грашыма. Ад гэтага траціцца запас дзяржаўнага банку. А калі банк ня мае запасу золата, або гэтакіх грошай, як даляры, якія маюць цьвёрды курс, дык свае паперкі ў самой дзяржаве танеюць. Усё гэта ўносіць путаніцу і дрэнна адбіваецца на гаспадарчым жыцьці і вось знача: дзякуючы палітыцы мін. Незабытоўскага, польскі ўрад гаспадарчае жыцьцё краю паставіў самахоць пад катастрофу. Урад у восень быў вельмі рад, што гандлёвы балянс быў выраўнаны, а г. зн., на якую колькасьць грошай прывозілася тавараў, на такую суму і вывозілася. Але вывозілася найболей збожжа, дык гэтая раўнавага адразу пахіснулася, калі вываз збожжа спыніўся і прышлося купляць збожжа для сябе заграніцаю. Вось чаму ў працягу некалькіх месяцаў гандлёвы балянс даваў дэфіцыт, знача прывоз быў большы, чым вываз.

Пасьля такой гэнаральнай і, як кажа „Роботнік“, „праступнай“ памылкі, польскі ўрад бярэцца за направу: перадусім павышае пошліну (мыта) на загранічныя тавары, каб меней іх прывозілася з заграніцы, праектуе забарону вывазу збожжа і таксама, як падавалі некаторыя газэты, праектуе зрабіць закуп збожжа коштам скарбу, каб вясною пусьціць запасы збожжа ў прадажу, а гэтым самым рэгуляваць цэны на хлеб.

На наш пагляд, гэтыя крокі ня зьменяць палажэньня і благога гаспадарчага стану польскае дзяржавы не направяць, бо ад высокае пошліны на загранічныя тавары прывоз не паменшыцца, дзеля таго, што ня ведама, ці краёвая прамысловасьць задаволіць патрэбы грамадзянства ўва ўсім тым, што дае заграніца. Ад гэтага можа падняцца цана на прадукты краёвага вырабу і гэтакім парадкам цана ізноў зраўняецца з цэнамі на загранічныя тавары, а тагды прывоз атрымае новыя пэрспэктывы. Знача, калі гэтак, дык раўнавагі на гандлёвы балянс чакаць нельга. Магчыма, што пры гэтакай сытуацыі і на далей гандлёвы балянс будзе даваць дэфіцыт. Аднак-жа нічога ў хвалях было-б ня відаць, калі-б ня ўсплывала гэтакая вось камбінацыя. Магчыма, што балянс быў-бы зраўнаважаны хоць часткава перад вясною, калі па здавальненьні свайго спажыўца ўдалося-б частку збожжа сплавіць заграніцу па лепшым веснавым, а не восеньнім цэнам.

Камбінацыя, ад якое траціцца розум, зарысоўваецца ў наступным: Усе як-ні-ёсьць дзяржаўныя ўрадоўцы, працаўнікі і інтэлігенты на-гвалт дамагаюцца палепшаньня быту, які залежыць быццам ад павышэньня пэнсіі. Што можа быць абсурдней гэтага?

Перадусім мусім зазначыць, што калі раўняць быт урадоўца з сялянскім бытам, дык ён, быт урадоўцаў, у тысячу разоў лепшы за сялянскі быт, а дзеля гэтага трэ' было-б зьвярнуць увагу на сялянства. Як відзім, дык гэта ня робіцца, а наадварот, паляпшаецца добрае, а гаротнае сялянства на далей забываецца ...

З першага верасьня ўрад паабецаў направіць упасажэньне чыгуначнікаў, паабяцаў направіць быт працаўнікоў у дзяржаўных урадах. Як тым так і другім павышана будзе пэнсія. А скуль-жа будуць брацца грошы і якім рэхам адаб'ецца гэта на гаспадарчым жыцьці?

Бяз сумліву грошы на палепшаньне быту ўрадоўцаў будуць брацца з сялянства, як з галоўнае падаткавае клясы. Адаб'ецца ўсё гэта гэтакім рэхам, што сялянства дазнае большага зьдзірства, а наагул сытуацыя пагоршыцца, бо ўсё стане даражэйшым. Дарагоўля нікога ня цешыць!... На гэта зьвярнуў увагу дэлегацыі ад дзяржаўных урадоўцаў мін. Чэховіч, аднак-жа яны не зразумелі яго словаў і дамаганьне свае падтрымалі.

У шмат каго ёсьць гэтакае перакананьне, што ўсё тое, што знаходзіцца ў добрым палажэньні—палепшаць, а ўсё тое, што знаходзіцца ў горшым, ды найгоршым палажэньні—пакінуць на аканчальную гібель, на аканчальнае зьніштажэньне. Гэтакіх паглядаў здаецца трымаецца і польскі ўрад, які паляпшае быт розных урадоўцаў, што і без таго знаходзяцца ў лепшым палажэньні коштам сялянства, якое чуць што толькі дыхае.

Аднак-жа тут пагляд гэтакі ня прыемлімы, бо акурат, ні ад каго іншага, а выключна ад сялянства, залежыць агульны дабрабыт: калі будзе добрае палажэньне сялянства, дык добра будзе ўсім. На гэта павінен-бы зьвярнуць увагу ўрад, а тагды можна было-б сказаць, што ўрад прыходзіць пасьля памылак да розуму і ўжывае яго на рэальныя рэчы, на карысныя рэчы для ўсяго агулу.

Ад земляробства залежыць усё і на яго неабходна зьвярнуць увагу. Калі будзе ў добрым стане земляробства, дык добра будзе жыць усім. Гэта—праўда, якую адхіліць нельга, а хто адхіляе яе, той, бязумоўна, мыляецца.

Station: Становка сьцьвярджаю, што без направы сялянскага быту, ня ўрэгулюецца ні гандлёвы балянс ні дзяржаўны бюджэт!...

Праўда, польскі ўрад час ад часу імкнецца направіць земляробства і быт сялянства, але-ж тут робіць ізноў вялічайшай вагі, як пісаў „Роботнік“, „праступныя“ памылкі, бо папраўляе земляробства буйных абшарнікаў і быт польскага сялянства коштам нацыянальных меншасьцяў. Тут ужо ня трэба многа гаварыць; даволі будзе довадаў, калі пакажам на неправядзеньне зямельнае рэформы ў угоду абшарнікам і калянізацыю Усходніх Крэсаў, беларускіх і ўкраінскіх зямель, выхадцамі з каранной Польшчы.

Усё гэта нам дае права гаварыць аб няздольнасьці польскіх урадаў і дамагацца свайго права і жыцьця. **Р. Булат.**

**Дык кожны, хто ўмее чытаць, спяшайся выпісаць сваю газэту „Сялянскую Ніву“.**

# СЭРВІТУТЫ.

(Працяг. Гл. № 57 „Сял. Нівы“).

## АДДЗЕЛ III.

### Ліквідацыя сэрвітутаў прымусовым парадкам.

*Арт. 22.* Калі часам загінулі ўрадовыя акты і дакуманты, адносна істнаваньня сэрвітутаў, факт паслугоўваньня сэрвітутнага права можа быць даказаны іншымі ўрадовымі дакумантамі, або ў парадку правядзеньня ўрадам спраўджэньня—на моцы пастановы акруговае зямельнае камісіі (п. 1).

Для азначэньня віду і абшару сэрвітуту служыць зьмест актаў, якімі замацована была ўласнасьць, а калі яны загінулі, дык—гіпотэчныя запісі, або іншыя ўрадовыя дакуманты; калі-ж няма гэтакіх, або калі зьмест актаў і запісяў неясны, але калі перад гэтым права на сэрвітут было даказана, дык адносна вымеру абшару павінна прыйсьці да згоды староны, або будзе ўстаноўлена гэта ўрадавым парадкам (п. 2).

*Арт. 23.* Пры тасаваньні прымусовага парадку касуюцца адначасна пры гэтым усе сэрвітутныя правы, якія абцяжвалі сэрвітутам маемасьць на карысьць аднае вёскі (мястэчка, места) (п. 1).

Супольнае карыстаньне вадою, паеньне скаціны, капаньне пяску, гліны, вапны і інш. матэрыялаў, а таксама супольнае карыстаньне прагонам і праездам могуць быць ліквідаваны на моцы гэтага распараджэньня толькі тагды, калі гаспадарчыя карысьці, атрымліваныя з тых супольнасьцяў, бяручы пад увагу мясцовыя варункі, могуць быць адпаведна заменены (п. 2)

*Арт. 24.* Вынаграджэньне за прымусовую ліквідацыю супольных пасьбішчаў і лясных супольных карыстаньняў (апал, будулец, зьбіраньне посушы і падсьцілкі) павінна быць вызначана, калі гэтае распараджэньне ня ставіць іначай, з прыгодных для валаданьня земляробскіх ці лясных ужыткаў, якія ня маюць значэньня забясьпечанасьці, ці з іншых (тарфяных і г. д.) і перадусім з тых абшараў, на якіх тыя супольнасьці могуць быць праўна выкарыстанымі. Пры вызначэньні вынаграджэньня з маемасьці, з якое супольнасьць ня можа праўна выкарыстана, належыць браць пад увагу адносную вартасьць тае маемасьці ў параўнаньні да адноснай вартасьці грунтаў, на якіх супольнасьці могуць быць праўна выкарыстанымі (п. 1).

Лясы, якія маюць забесьпячаючае значэньне, толькі тагды могуць быць уключаны ў абшар выдзеленага як вынаграджэньне за ліквідацыю супольнасьці, калі зьяўляюцца вымерам, які не перавышае 20% ляснога абшару або зямлі з пад лесу (п. 2).

Вынаграджэньне за сэрвітуты — пасьбішчы павінна быць выдзелена з абшараў прыгодных для земляробства, ці з грунтаў з пад лесу бяз дрэва, якое там расьце, а за лясныя супольнасьці—разам з дрэвам. Аднак-жа па згодзе абедзьвух старонаў вынаграджэньне грунтам разам з дрэвам можа быць выдзелена і за сэрвітутныя пасьбішчы, а грунтамі бяз дрэва—і за лясныя супольнасьці (п. 3).

Як вынаграджэньне за ліквідаваную супольнасьць ня можа быць выдзелена з абшару, які зьяўляецца судова спрэчным за прыналежнасьць да супольнага карыстаньня (п. 4).

*рт. 25.* Вынаграджэньне грашыма (сплата) можа быць вызначана за прымусовую ліквідацыю сэрвітутаў у адным з наступных здарэньняў:

*a*) Калі абедзьве староны згодзяцца;

*b*) Калі супольная маемасьць ня мае абшараў, выказаных у 1 ч. 24 арт., ці калі абшары, якія зьяўляюцца неабходнымі для абароны дзяржавы;

*c*) Калі супольная маемасьць мае выказаныя ў 1 ч. 24 арт. абшары, але ў гэтакай адлегласьці ад маемасьці ўласьнікаў, што выдзяленьне з тых абшараў не давала-бы магчымасьці гаспадаром вясьці на іх рацыянальную гаспадарку;

*d*) Пры здарэньні, калі ліквідуецца іншая, а не пасьбішчная ці лясная супольнасьць (сэрвітут);

*e*) Калі супольная маемасьць належыць да дробных земляробаў і абшары тэй маемасьці, а такжа маемасьць уласьнікаў не паложаны ў шахаўніцы (церазпалосіцы);

*f*) Ува ўсіх здарэньнях, калі цераз выдзяленьне вынаграджэньня грунтам абшар таго гаспадарства сэрвітутнае маемасьці стаў-бы ніжэй як 35 гэктараў.

*Арт. 26.* Вынаграджэньне за прымусова зліквідаваны сэрвітут можа быць выдзелена з абшараў (арт. 24), якія знаходзяцца ў карыстаньні дробных земляробскіх арэндатараў, да якіх могуць быць датасаваны правілы ўставы з 31 ліпня 1924 г. у мэтах абароны дробных арэндатараў (Dz. U. R. P. Nr 75, poz. 741) (п. 1).

У выпадку прадугледжанага ў 1 ч. выдзяленьня вынаграджэньня, дробныя земляробскія арэндатары павінны быць перанесены на выдзеленыя новыя абшары, выказаных у ўспомненай тут уставе з 31 ліпня 1924 г. Калі ўласнік сэрвітутнае маемасьці, у вызначаным яму ад павятовага зямельнага ўраду месячным тэрміне ня вызначыць заменных дзялянак для дробных арэндатараў, дык павятовы зямельны ўрад вызначыць для іх з абшараў сэрвітуту таго самага ўласьніка новыя дзялянкі, адпаведныя па земляробскай вартасьці арэндаваным дагэтуль, і дасьць распараджэньне арэндатарам аб пераходзе на тыя дзялянкі. Калі павятовы зямельны ўрад сьцьвердзіць, што выдзяленьне заменных дзялянак з увагі на мясцовыя варун-

# Яшчэ аб „Гангрэне“.

Супрацоўнік польскага „Віленскага Кур'ера“ п. Ст. Сьвяневіч, вядомы па справе пасла Ваявудзкага, дзеля таго, каб апраўдаць сябе перад публічнаю апініяю ў тым, што, як ён сам прызнаўся, пісаў „рапарты“ для II аддзелу польскага ваеннага штабу аб беларускіх справах, сабраў, па свайму выбару, грамадзкі суд з прадстаўнікоў польскага, беларускага і літоўскага грамадзянства. Перад гэтым грамадзкім судом п. Сьвяневіч тлумачыўся, што хоць ён і пісаў даклады вайсковым уладам аб Беларусах, але-ж тыя даклады былі ня шкоднага зьместу; па славам п. Сьвяневіча, яго даклады насілі чыста публіцыстычны характар, як газэтная стацьця—ня болей, а як такія, дык знача ня шкодныя. Быццам забыўся п. Сьвяневіч, што іграе ролю ня месца зьмяшчэньня, а зьмест стацьці, дакладу, ці якога іншага артыкулу!... Грамадзкі суд доказы прызнаў слушнымі і дзеля гэтага п. Сьвяневіча апраўдаў. Калі мы атрымалі копію судовае пастановы, дык хацелі разгледзіць яе падрабязна, але-ж пасьля раздумалі, бо лічылі, што ня варта гаварыць аб польскіх патрыётах. Разумеецца, што пастанову надрукаваць таксама не маглі, уважаючы, што дзейнасьць п. Сьвяневіча, якая-бы яна ня была, ці дэфэнзыўная, ці публіцыстычная—прыносіла Беларусам пэўныя шкоды.

Дзеля гэтага мы справу зусім адлажылі да няведамага часу, але вось нядаўна п. Сьвяневіч прыслаў нам пісьмо, якое просіць зьмясьціць у нашай газэце, а ў гэтым пісьме была падзяка ўсім тым, якія ад пачатку і да канца былі перакананы, што п. Сьвяневіч у адносінах да Беларусаў ня ўчым не саграшыў. Мы справу трактуем іначай і для падзякаў гэтакага роду няма месца ў „Сялянскай Ніве“.

У сувязі з гэтым, каб ахарактарызаваць даклады п. Сьвяневіча, ніжэй робім выняткі з яго артыкулу: „Польшча і Беларусы“, які зьмешчаны быў у № 14 „Віленскага Кур'ера“ за гэты год.

Перадусім мы відзім там „турботу аб дзяржаўны інтэрас“ (разумеецца аб польскі інтэрас), а дзеля гэтага п. Сьвяневіч раіць ураду „адносна крэсавага насяленьня стаць у ролі разумнага і справядлівага гаспадара, але староўчага гаспадара, гаспадара **з моцнаю рукою**“. Знача, кінуць якую крошку са свайго стала, а калі хто пасьмее вымагаць болей, дык „моцнаю рукою“—прыдавіць...

Гэты артыкул п. Сьвяневіч зьмясьціў акурат тагды, калі адбываліся арышты Грамадаўцаў, дык у сувязі з гэтым п. Сьвяневіч пытаецца: Чым ёсьць „Грамада“? На сваё пытаньне п. Сьвяневіч адказвае сам:

„Мыліцца той, хто думае, што „Грамада“—нейкая вельмі адналітая і спаяная арганізацыя. Уходзяць туды найразнароднейшыя элемэнты, якіх злучае толькі адна супольная мэта: барацьба з польскаю дзяржаўнасьцю. Сярод дзеячаў і агітатараў „Грамады“ належыцца разьлічаць пяць наступных катэгорыяў людзей:

1) Беларускія ідэйныя патрыёты,

2) Запраўдныя камуністы і камунізуючыя,

3) Безработныя інтэлігенты і поўінтэлігенты,

4) Расейскія манархісты,

5) Правакатары“.

Гэтыя словы значаць, што п. Сьвяневіч, будучы беззінтэрасоўным чалавекам, сьцьвярдзіў, што „Грамада“ мела мэтаю барацьбу з польскаю дзяржаўнасьцю. Але ці-ж ня ў гэтым вінавацяць арыштаваных і ці-ж не зьяўляецца п. Сьвяневіч сьведкаю на карысьць ураду?

Далей ідзе гутарка аб бальшавіцкіх грошах, якія быццам атрымоўвала „Грамада“.

„Вельмі часта,—піша п. Сьвяневіч,—пішацца і гаворыцца аб бальшавіцкіх грошах, якімі распараджалася „Грамада“. Ці тыя грошы запраўды паходзяць з **бальшавіцкіх крыніцаў?** Здаецца мне, што бяз сумліву **але**.

Гледзячы з пункту права і гледзячы з пункту грамадзкага пачуцьця, прыймо грошай ад чужое варожае дзяржавы на антыдзяржаўную (знача на проці-польскую, *Рэд.*) прапаганду, на „вывратовыя“ мэты—ёсьць праступкам. **Беларускія палітыкі з „Грамады“ зьяуляюцца праступнікамі і мусяць быць пакараны.***) Але ў іх праступку ёсьць лагодныя зьявішчы, якія ў імя справядлівасьці, у імя поўнага высьвятленьня справы, ня можна памінуць“.

Гэта знача, па думцы п. Сьвяневіча, ня трэба караць беларускіх „праступнікаў“ сьмерцяй, як хацелі гэтага польскія хадэкі, але-ж гнаіць у вастрогах можна, а гэта дзеля таго, што:

„Тыя (бальшавіцкія, *Рэд.*) грошы ішлі ня толькі на антыдзяржаўную прапаганду, яны ішлі так-жа на беларускі лямантар, ішлі на падтрыманьне шмат якіх беларускіх культурных установаў“.

Нас дзівіць, адкуль мог ведаць усё гэтак падрабязна п. Сьвяневіч аб беларускіх справах? Пасьля гэтых агульных вінавачаньняў, ідзе далей гутарка аб некаторых асобах, з якое відаць, што п. Сьвяневіч з пэўнымі дзеячамі Беларусамі быў вельмі ў блізкіх адносінах, якія выкарыстоўваў для дакладу начальству аб беларускіх справах.

„Быў я раз, — піша п. Сьвяневіч, — у арыштаванага цяпер дырэктара беларускае гімназіі п. Радаслава Астроўскага. Сказаў ён мне, што ў хуткім часе прыступае арганізаваць сетку тайных беларускіх школаў. П. Астроўскі хваліўся мне тагды, што ў гэтай галіне ён мае вялікую практыку. Але на гэта так-жа былі патрэбныя сродкі. Беларусы муселі іх недзе ўзяць.

„Беларусы цяпер гэтак зацікаўлены справаю школьніцтва, што на асьвету возьмуць грошы ад кожнага, хто іх даваць будзе, хоць-бы ад самага чорга“,—гаварыў мне ў студзені 1922 году адзін з найлепшых тагачасных знатакоў беларускага пытаньня.

Грошы гэтыя прышлі ад камуністых. Але за тыя паслугі трэба было плаціць камуністам поўнасьцю, трэба было аканчальна парваць з „заходняю арыентацыяй“, трэба было стаць на грунце Савецкае Беларусі. Рад Беларусаў зрабіў гэта“.

Дык вось, ці-ж ня ёсьць гэта выразнае пасьведчаньне ў „праступнасьцях“ Беларусаў проці польскае дзяржавы і ці-ж ня гэтага трэба польскаму ўраду, каб асудзіць арыштаваных грамадзістаў?

Далей на ролі п. Сьвяневіча ў гэтай справе мы астанаўлівацца ня будзем; няхай кожны Беларус сам сабе зробіць належныя вывады!...

Ведама, п. Сьвяневіч будучы патрыётам польскае дзяржавы, працуе на яе карысьць і вольна ці нявольна, як відаць з вышэй паданага, наносіць удары па Беларусах. Вымагаць патрыятызму для нас ад п. Сьвяневіча, як ад Паляка, мы ня будзем. Але-ж нас займае іншая справа, а іменна: ня гледзячы на гэтакія яўна і ясна шкадлівыя Беларусам, а галоўным чынам, арыштаваным грамадаўцам, выступленьні п. Сьвяневіча, нашоўся Беларус у асобе „наўчонага спадара“ Янкі Станкевіча, які прызнаў, што п. Сьвяневіч проці Беларусаў не зрабіў ніякага шкадлівага выступленьня, а наадварот, быццам п. Сьвяневіч вельмі прыхільна трактуе беларускую справу. Вось гэтую „гангрэну“ мы і мелі на прыкмеце пішучы гэты артыкул.

Мала Я. Станкевіча, дык і „Наша Праўда“, якою кіруе „працоўны“ Луцкевіч, таксама прыхілілася да гэтае справы і апраўдала п. Сьвяневіча. Пасьля гэтага нас цікавіць пытаньне: ці ў гэтых паноў — бракуе розуму, ці ёсьць прынцып — біць Беларусаў?...

Арыштаваныя паслы і дзеячы і ўсё беларускае грамадзянства павінна глянуць на справу цьвяроза і горача прыняць да сэрца праступныя ўчынкі паноў Янкі Станкевіча і Луцкевіча!

**Піліп Нікель.**

*) Чорны шрыфт—мой.

ЗБОРНІК ВЕРШАЎ.

Вышаў з друку зборнік вершаў
ФР. ГРЫШКЕВІЧА
„ВЕСНАВЫЯ МЭЛЁДЫ“
ЦАНА без перасылкі 1 зл.
ЦЭНТРАЛЬНЫ СКЛАД:
кнігарня „ПАГОНЯ“
Wilno, Zawalna 7.

кі было-б немагчымым ці нарушала-б гаспадарчыя інтарэсы ў вачавіднасьці, дык выдасьць засьцярогу, што дагавор падлягае выращэньню пасьля паўгоду ад даручэньня арэндатарам засьцярогі. Уласьнік забавязаны будзе ў гэтакім выпадку выплаціць арэндатарам вынаграджэньне ў высокасьці трыразовае гадавое даніны (чыншу). Павятовы зямельны ўрад ня можа вызначыць заменных дзялянак на абшарах, якія падлягаюць выключэньню ад парцэляцыйнага забавязаньня на аснове арт. 4 уставы з 28 сьнежня 1925 г. аб выкананьні зямельнае рэформы (Dz. U. R. P. 1926 r. Nr. 1, poz. 1), а таксама і на абшарах, папярэдне ўжо звольненых ад таго забавязаньня на моцы арт. 5 тэй самай уставы. Распараджэньні павятовага зямельнага ўраду могуць быць абжалаванымі згодна арт. 24 уставы з 11 жніўня 1923 г. аб дзейнасьці мін. зям. рэформаў і арганізацыі зямельных урадаў і камісіяў (Dz. U. R. P. Nr 90, poz. 706) (п. 2).

Прадугледжанага ў 2 ч. вынаграджэньня можна даходзіць толькі судом (п. 3).

Арэндатары павінны адхіліцца з арэндаваных дзялянак па сабраньні ўраджаю (п. 4).

Неперанясеньне арэндатараў і нявыплата ім вынаграджэньня ня ўстрымлівае выдзяленьня з арэндаваных абшараў вынаграджэньня за ліквідаваныя сэрвітуты (п. 5).

*Арт. 27.* Вынаграджэньне не за ліквідаваныя сэрвітуты можа быць выдзелена з усяго абшару сэрвітуту незалежна ад таго, ці карыстаньне сэрвітутам адбывалася на ўсім абшары, ці толькі на некаторых яго частках, выдзеленых пасьля таго, як паўстаў сэрвітут, у паасобныя адзінкі. Выдзяленьне гэтае дазваляецца толькі тагды, калі зьяўляецца неабходным для захаваньня рацыянальнае гаспадарчае структуры аднолькава як уласнай маемасьці так і сэрвітутнае.

*Арт. 28.* Вынаграджэньне за сэрвітуты, належнае індывідуальна паасобным гаспадаркам выдзяляюцца асобна для кожнае гаспадаркі ў форме па магчымасьці, якая не вымагае аб'яднаньня грунтаў (п. 1).

Вынаграджэньне гэтае можа быць таксама выдзелена на супольную ўласнасьць упраўненых гаспадарак, калі акруговы зямельны ўрад прызнае, што зьяўляецца гэта неабходным з увагі на земляробскія мясцовыя адносіны (п. 2).

Вынаграджэньне за сэрвітуты, якія належаць усім (грамадзкія) ці якой-колечы групе (груповыя) гаспадарак аднае вёскі, павінна быць выдзелена на супольную ўласнасьць (п. 3).

*Арт. 29.* Пры ліквідацыі сэрвітутаў разам з аб'яднаньнем грунтаў маемасьці уласнай і сэрвітутнай вынаграджэньне за сэрвітуты, належнае паасобным гаспадаркам індывідуальна, нейкай з іх групе ці ўсім гаспадаркам аднае вёскі, можа быць выдзелена ў ідэальнай частцы вартасьці грунтаў усяе сэрвітутнае маемасьці або яе часткі. Выдзяленьне вынаграджэньня адбудзецца разам з аб'яднаньнем грунтаў.

*Арт. 30.* Ліквідацыю распачынае павятовы зямельны ўрад, той, да якога належыць уласьнік маемасьці:

*A*) На выпадак заявы ўласьніка ці таго, хто ўладае маемасьцю згодна арт. 560 т. X ч. 1 Зборніка Правоў, або аднаго з супольнаўласьнікаў ці гэтакіх самых супольнікаў, якія карыстаюцца сэрвітутнаю маемасьцю;

*B*) У выпадку заявы паўнамоцнікаў прадстаўнікоў самастойных гаспадарак ці аднаго з такіх прадстаўнікоў, паўнамоцных да гэтакага выступленьня;

*C*) А таксама:

*a*) Пры перабудове земляробскага ладу на абшары сэрвітутнае маемасьці ці валаданьня;

*b*) Пры правядзеньні мэліярацыі;

*c*) На прапанову адноснай ўлады аховы лясоў у сувязі з зацьверджаньнем ці выкананьнем пляну ўстройства лясное гаспадаркі;

*d*) Ды адносна ўсіх сэрвітутаў, якія падлягаюць ліквідацыі на моцы гэтага распараджэньня, калі да 1 студзеня 1930 году ня будуць ліквідаваны (п. 1).

Калі ліквідуюцца пасьбішчы ці лясныя, ці якія іншыя сэрвітуты, якія абцяжаюць тую самую сэрвітутную маемасьць, дык павятовы зямельны ўрад можа выдзяліць ліквідацыю тых іншых сэрвітутаў у асобнае справаводзтва, якога ход ня будзе адбівацца на справаводзтва ліквідацыі пасьбішчаў і лясных сэрвітутаў (лясоў супольнага карыстаньня) (п. 2).

Прымусовае справаводзтва не пазбаўляе староны магчымасьці ліквідацыі ў яго ходзе сэрвітуту на аснове дагавору і можа быць устрымана, калі зямельны ўрад прадоўжыць гэтакі дагавор, а пры зацьвярджэньні яго акруговаю зямельнаю камісіяй падлежыць скасаваньню (п. 3).

Калі-б староны ня выбралі паўнамоцнікаў, (арт. 4 і 5) справаводзтва ня спыняецца (п. 4).

*Арт. 31.* Калі запраектуюцца на вынаграджэньне за ліквідацыю сэрвітутаў, лясныя абшары ці зямля з пад лесу, дык павятовы зямельны ўрад зьвернецца да адноснае ўлады аховы лясоў аб устанаўленьне, ці даныя абшары маюць мэты бясьпечнасьці, а таксама па дазвол на вырубаньне дрэваў і на зьмену карыстаньня. Тая улада ў працягу аднаго месяца ад даты атрыманьня адозвы павінна паведаміць павятоваму Зямельнаму ўраду сваю пастанову. Калі зямельны ўрад не атрымае ў вышэй зазначаным тэрміне гэтакай пастановы, дык можа прызнаць, што адносныя абшары ня маюць ахоўных мэтаў і што пажаданы дазвол — прызнаны.

(Далей будзе).

## Пагалоскі аб саюзе.

Газэта „Рытас“ перадрукавала вестку з газэты „Германія“, аб тым, што быццам у часе прыезду эстонскага міністра замежных спраў Акеля ў Рыгу будзе, паміж іншым, абгарвацца пытаньне аб пашырэньні, паглыбленьні і замацаваньні прыяцельскіх адносінаў паміж балтыцкімі дзяржавамі. Перагаворы аб стварэньні патройнага саюзу Літвы, Латвіі і Эстоніі (бяз Польшчы) быццам будуць адбывацца і ў Коўне ў часе пабыту там латвійскага міністра Цэленса з візытам да мін. праф. Вальдэмараса.

Калі гэтак, дык відзім, што Польшча ў сваей балтыцкай палітыцы пабіта. А гэта ўсё ад таго, што трывае ваенны стан з Літвою, ды што сама Польшча не зьяўляецца аўтарытэтнаю для суседзяў. Паражка Польшчы ў балтыцкай палітыцы, думаецца, залежыць і ад таго, што публічная апінія дамагалася, яшчэ гэтак нядаўна, захапленьня Літвы і часткі Латвіі (Інфлянты), якія па думцы Палякоў зьяўляюцца польскімі.

Адначасна з гэтым зьявіліся весткі, быццам Польшча мае распачаць перагаворы з Літвою аб урэгуляваньні добрасуседзкіх адносінаў.

Пабыт у Вільні марш. Пілсудскага прыпісвалі іменна гэтаму здарэньню.

Хоць фактычных даных аб усім гэтым няма, аднак-жа бязсумліўна верна, што ў дыплёматычных колах, як Польшчы, так і балтыцкіх дзяржавах: Літвы, Латвіі, Эстоніі,—нешта нейкае творыцца.

## ДА ВЕДАМА ІНВАЛІДАЎ!

Найвышэйшы Трыбунал Адміністрацыйны дня 13.VI. с. г. пад № 3816/25 разглядаў справу інвалідаў, зарэгістраваных пры г. зв. францускай рэгістрацыі і вынес пастанову, што гэтая рэгістрацыя дае права інвалідам дамагацца рэнты інвалідзкай. У сувязі з гэтым усе інваліды, якія былі зарэгістраваны пры г. зв. францускай рэгістрацыі і дагэтуль не атрымалі рэнты, могуць на нова пачаць справу ў адпаведным „Р. К. U.“ аб прызнаньні рэнты, паклікаючыся на пастанову найвышэйшага трыбуналу.

Сэкрэтарыят
Белар. Пас. Клюбу.

*Ніколі не зьністажай газэты, прачытаўшы дай яе суседу!*

## Аб аднэй „красачцы“.

„Беларускі Дзень“ праводзячы паланафільскую думку мае адзін прынцып: рабіць гэта пад відам культуры. Ён дае сякія-такія гаспадарчыя і лякарскія парады, ну і, не бяз гэтага, сягды-тагды сьцебане па беларускаму нацыянальнаму руху.

Апошнімі часамі дык „Бел. Дзень“ пачаў праліваць шатаваныя сьлёзы аб нязгодзе паміж беларускімі палітычнымі кірункамі і адначасна ўзяўся пісаць „рэцэпты“ аб прымірэньні.

Відзім мы гэта з артыкулу „Аб беларускай прэсе“ П. Сеўрука, які хоць многа гавора там аб культуры і навуцы, але здаецца нічога, акрамя „гладыятараў“ не разумее. Калі-б ён (П. Сеўрук) разумеў штоколечы, дык перадусім ня дзівіўся-б, што ідуць спрэчкі на старонках газэтаў, якія выходзяць на беларускай мове. Ён ведаў-бы, што кожная газэта зьяўляецца органам большай ці меншай групы асобаў, якія выяўляюць той ці іншы палітычны кірунак. Ён ведаў-бы, што „Бел. Дзень“—гэта польская газэта, якая і зьяўляецца для таго, каб лаяць іншыя, а дзеля гэтага ня можа быць згоды паміж „Сялянскаю Ніваю“ і „Бел. Днём“, бо кіраўнікі „Сял. Нівы“ грунтуюць сваю палітыку выключна на абсалютнай незалежнасьці Беларусі, а кіраўнікі паланафільскага „Бел. Дня“ імкнуцца ўтрымаць Зах. Беларусь пры Польшчы, ды далучыць яшчэ сюды і Ўсходнюю Беларусь. Бачыце, рожніца аграмадная. Гэтакая самая рожніца ёсьць і паміж „Сялянскай Ніваі“ і „Нашай Праўдай“, бо „Наша Праўда“ таксама мае свой, але-ж не нацыянальны - беларускі кірунак. Дык вось, як-жа можна пагадзіцца?

П. Сеўрук павінен быў-бы ведаць, што мець справы Беларусу з Умястоўшчынай, знача ўсёроўна, што сесьці на смалу. Смала прылепіцца да адзеньня і яе нельга адмыць і выглядае няпрыгожа; таксама і Ўмястоўшчына: нічога ня дасьць, а толькі апэцкае...

Нас ня будзе дзівіць, калі гэты П. Сеўрук ня будзе тымсамым, які займае становішча Старшыні Акружное Управы Т-ва Беларускае Школы ў Горадні, але калі гэта тойсамы (што, здаецца, справядліва), дык мусім сказаць, што блага працуе шырока рэклямаванае Т-ва Беларускае Школы, калі яно мае гэтакіх анальфабэтаў, як П. Сеўрукі на гэтакіх высокіх становішчах, як Старшыня Акружное Ўправы. Можна было-бы прынамсі адказнаму і высокаму свайму рэпрэзэнтанту вытлумачыць, што не належыцца галаву садзіць нават у мёд, (бо мёд, хоць і салодкі, аднак-жа калі абмазаць ім галаву, дык ня прыгожа будзе), а ня толькі што ў умястоўскае гнілое балота.

# Да нас пішуць.

### Званы.

(м. Лужкі, Дзісьн. пав.).

Заўсёды было цяжка нам сялянам жыць, а пасьля вайны, дык гэтак жывецца, што горш і ў пекле ня будзе.

Але-ж на нашую гаротнасьць не ўважае ніхто; замест дапамогі нам шлюць наказ за наказам на розныя падаткі, даніны, нядоімкі і г. д.

Плаціць мусіш, бо калі не заплаціш, дык сэквэстратар сьцягне апошнюю рэч, або і што горшае,—як гэта можа здарацца, прычэпяць якую антыдзяржаўнасьць, бунт, камунізм—і гайда за краты!...

І мусіць селянін спаўняць усе абавязкі, а розныя апякуны і рады гэтаму. Рады, што селянін падаецца, дык яшчэ болей падсыпаюць яму ўсялякіх вымаганьняў.

Акрамя цывільных уладаў не адстаюць у гэтым ад селяніна і духоўнікі. Нават і нашым духоўным айцам Аркадзію ды Івану падабаецца вымагацельства ад селяніна. Здаецца духоўнікам, якія маюць блізкую сутычнасьць з сялянствам, павінна было-бы быць ведамым усё тое гора і ўся тая галіта, якая пануе ў сялянстве. Але-ж на гэта духоўнікі не зважаюць!

Неяк аднойчы ў нядзелю вышлі з эвангеліей на амбону нашы духоўныя айцы і ў „шчырасьці“ са сьлёзамі гавораць парахвіянам: „у нас нет званов, как известно, их во время войны спасаючы от Немцев эвакуировали в Москву, где они повидимому и пропали. Звониць же в рельсу не хорошо, не пристойно. Смотрите, в католических касьцёлах звоны есть, вот почему и смеются над нами католики. Нужно нам купить звоны!“ На пакупку званоў трэба восем тысяч злотых, дык і разлажылі гэтую колькасьць грошы па $2\frac{1}{2}$ злотых на морг зямлі.

Рахунак і расклад дык удаўся добра, але-ж як прышлося спаганяць грошы, дык вышла зусім марна. Да каго толькі ня зьвернешся па грошы, кожны пачынае жаліцца на тое, што няма грошы, што ніяк не адаб'ешся ад падаткаў, бо няма нават хлеба і г. д.

Пасьля ўсяго таго, калі выясьнілася, што ад сялян нічога ня возьмеш, бо што было, дык забралі цывільнікі—духоўнікі, замест таго, каб разам з гаротным сялянствам задумацца над цяжкою сытуацыяй і абсудзіць яе ў мэтах шуканьня выхаду з гэтакага цяжкага палажэньня, яны—стаўшы ізноў на амбоне--пачалі пасылаць парахвіянам розныя дакоры, называлі рознымі ня добрымі славамі, называлі нават камуністамі і страшылі пеклам і страшным судом! „Вы, кажа, атшатнуліся ад царквы, забылі аб сваіх душах, а служыце целу, позна будзе каяцца як апынецеся ў пекле“...

Я—чалавек рэлігійны і за веру гатоў нават пайсьці на мукі, але-ж мне здаецца, што горшага пекла, у якім мы жывём, ня будзе і ня можа быць. Праўда, званы ў царкву трэба, але што рабіць, калі няма ніякае рады, каб прыдбаць іх—гэта адно, а другое вось што: я думаю, што з гэтага запраўднага пекла, у якім мы жывём, званы ня выратуюць нас.

Мы павінны справіць звон, які вымагае не царква, а ўся наша Бацькаўшчына-Беларусь!.. Гэта—сьвядомасьць наша.

Духоўнікі павінны зразумець мяне і ўясьніць сабе сутнасьць маіх словаў, ды не вымагаць ад сялянства непасільнага. Няхай тымчасам адбываецца цэрамонія звону ў рэльсу... Ісус Хрыстос нам выбачыць...

### Ня ўсім добра жывецца.

(м. Варанова, Лідзкага пав.).

Цяжка жывецца сялянам у нашай ваколіцы. Добрае жыцьцё маюць адны толькі польскія асаднікі. Атрымліваюць пазычку за пазычкай дый толькі... Сьмяюцца над нашым сярмяжным народам, абзываючы нас „хамамі“, што мы ня ўмеем „рацыянальна“ ўпраўляць гаспадаркай. Але-ж мы бачым добра, як і яны жывуць: улезьлі ў пазычку па вушы і яшчэ лезуць, як мядзьведзь да мёду, і нічога ня маюць. Як толькі атрымаюць грошы, дык зараз і бягуць у рэстаран сьмяючыся над намі, што „ніц не маён“. Што-ж, ня ўсім мець такое шчасьце. Але нашы сяляне ім не зайздросьцяць, што асаднікі „разумнікі“ купяць на ўсю іванаўскую, бо гэта не паказываець на добрае.

Перад выбарамі надта-ж цмокалі, каб як папасьці ў гміннную раду, а пасьля, ну, вядомая рэч, нехта з іх быў-бы войтам. Але ня гэтак сталася, як яны думалі. Нашы беларускія сяляне зразумелі, у чым справа, зразумелі тактыку самаўрадавай палітыкі і дзякуючы арганізацыйнай сьведамасьці, у гміннную раду правялі ўсіх беларусаў-сялянаў, за выняткам двух жыдоў.

Абшарнікі і асаднікі ну проста шалелі, пасьля нават між сабой пачалі сварыцца. Хацелі нанава рабіць выбары, нават з гэтай мэ-

# НАВІНЫ.

— **Інтэрвэнцыя пасла Ярэміча ў справе пабіцьця вязьняў.** У адным з папярэдніх нумароў „Сял. Нівы“ падавалі вестку аб пабіцьці засуджаных у Слонімскім працэсе палітычных вязьняў. Як мы даведаліся, у гэтай справе пасол Ярэміч, як старшыня Беларускага Пасольскага клюбу, зьвярнуўся да п. Міністра справядлівасьці з просьбай аб вызначэньні сьледзтва і пакараньні вінаватых.

— **Беларускі Народны Тэатр** Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ладзіў спэктаклі 30, 31 ліпня і 1 жніўня ў Іўі, Лідзкага павету. На гэтых спэктаклях былі адыграны гэтакія п'есы: „Дзядзькі Якуб“, „Пасланец“, „Мікітаў лапаць“, „Міхалка“ і „Зьбянтэжаны Саўка“. Пасьля прадстаўленьня адбываліся сьпевы і танцы. 3 і 4 га жніўня адбыліся спэктаклі ў Моўчадзі, а 6, 7 і 8 г. жніўня будуць іграць у Баранавічах; 10 і 11 г. жніўня маюць адбыцца спэктаклі ў Ляхавічах, 13, 14 і 15 г. жніўня—ў Мядзьведзічах, Сіняўцы і Гайніне. Спэктаклі адбываюцца з вялікім пасьпехам.

— **Кончылі навуку.** Сёлета з дыплёмам магістра праў кончыў навуку ў віленскім унівэрсытэце гр. А. Зянюк; з дыплёмам доктара ўсіх лекарскіх навук—вышаў з унівэрсытэту па сканчэньні студыяў гр. М. Марцінчык і гр. І. Сергеевіч—акончыў мастацкі аддзел.

З Прагі Чэскай вярнуліся пасьля заканчэньня навукі, як лясныя інжынеры, гр. гр. М. Ігнатовіч і А. Сасноўскі і як аграном А. Малевіч.

— **Выбары ў меставыя рады.** 4 жніўня пачаўся выбарчы час у сувязі з выбарамі ў меставыя рады ў Радашковічах, Глыбокім, Дзісьне, Докшыцах, Вялейцы, Падбродзьдзі і Смаргонях.

Самае галасаваньне адбудзецца за месяц, г. зн. 4-га верасьня с. г.

Вынікі выбараў пакажуць, на колькі мясцовыя жыхары арганізаваны і як патрапяць бараніць свае інтарэсы. Калі новавыбраныя рады будуць складацца з мясцовых Беларусаў—стойкіх грамадзян, то выбары могуць прынясьці рэальныя карысьці. У іншым выпадку ўсё астанецца пастараму.

— **Кумоўства „Нашай Праўды“ з „Бел. Словам“.** Нядаўна адбылася канфэрэнцыя запрошаных сяброў Беларускага Сялянскага Саюзу,—адзінай незалежніцкай партыі. Гэты факт, ёсьць ведама, выклікаў зайздрасьць сярод падлізьніцкіх і дэфэнзыўных часопісяў. Як „Беларускае Слова“, так і „Наша Праўда“ на сваіх шпальтах ня могуць сабе даравадь, што беларускі адраджэнскі рух шпарка разьвіваецца пад бел-чырвона-белым сьцягам Беларускага Сялянскага Саюзу і затым зьмяшчаюць аб канфэрэнцыі рожныя ілжывыя весткі. У папярэднім нумары „Сял. Нівы“ была пададзена падрабязная справаздача з працы канфэрэнцыі і дзеля гэтага няма патрэбы лішні раз пярэчыць безпадстаўным нападам прадажніцкіх і дэфэнзыўных часопісяў.

Апошнія напады відавочна пацьвярджаюць супольнасьць фронту Паўлюкевіча і Луцкевіча ў барацьбе з нацыянальным беларускім рухам; аб гэтай супольнай лініі мы ўжо няраз пісалі. Можна толькі пацьвердзіць, што кумоўства „Нашай Праўды“ з „Беларускім Словам“ узмацоўваецца.

— **Падгалосак „Нашай Праўды“.** Вядомы сэнатар з пад Радашкавіч распускае па мястэчку тамжа ілжывыя плёткі і рожныя выдумы аб канфэрэнцыі Беларускага Сялянскага Саюзу. Прыходзіцца толькі дзівіцца, што, калісь паважны чалавек, зрабіўся падгалоскам „Нашай Праўды“ і „Беларускага Слова“ і займаецца няпрыстойнай работай.

— **„Зьлітаваўся“.** Віленскі каталіцкі арцыбіскуп-мітрапаліт „зьлітаваўся“ над Беларусамі каталікамі, бо ня толькі што дазволіў, а нават за грошы арцыдыэцэзіі надрукаваў катэхізіс рымска-каталіцкага касьцёлу ў беларускай мове лацінскімі літарамі. Не памінуў арцыбіскуп-мітрапаліт і праваслаўных Беларусаў, бо і для іх выдаў каталіцкі катэхізіс, які надрукаваны кірыліцаю (гражданкаю). Так сказаць „ашчасьлівіў“ сваею ласкаю наагул усіх Беларусаў!

